# ЗОРКА



*Добры дзядуля Мароз збірае заказы дзяцей на святочныя падарункі.*

№ 52 (935) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 28.XII.1975 г.

Л. Сяргееў

# З каго лепш смяяцца

Аднойчы я заўважыў, што я не проста гавару, але яшчэ і гавару смешна. Я заўважыў, што я вельмі дасціпны. І тады я пачаў гаварыць аднымі жартамі. А калі гаварыў не я, а нехта іншы, я ўвесь час устаўляў у размову ўсялякія смешныя слоўцы.

Асабліва дасціпным я быў з сябрамі. Я ўвесь час з іх падсмейваўся. У маіх сяброў было шмат недахопаў. Напрыклад, я выходзіў на вуліцу, а там Жэнька вучыцца катацца на веласіпедзе. Вочы вытарашчыў, ногі ў розныя бакі. Як чарапаха! Ну як тут не засмяяцца! І я пачынаў рагатаць. Або неяк я гуляў з Валодзькам у мяч, а ён раз — і трапіў мячом у сваю бабулю. Я смяяўся да слёз! І так увесь час.

Ну і смешныя ж былі мае сябры! З імі можна было памерці ад смеху. Кожны раз, калі мне хацелася пасмяяцца, я выходзіў на вуліцу, наглядаў за імі і рагатаў да колікаў у жываце.

Неяк я сказаў бацьку:

— Жэнька дурны! Я вымяняў у яго каляровыя алоўкі за нейкі ножык!

— Так? — здзівіўся бацька. — А я цяпер ішоў па вуліцы, а твой Жэнька кажа нейкаму хлопчыку пра цябе: „Ягор — асёл! Абмяняў такі ножык на алоўкі!“ Вось як!

Я пакрыўдзіўся і хацеў пайсці, але бацька затрымаў мяне.

— Ты любіш смяяцца з іншых, а калі з цябе смяюцца, не любіш. Гэта нядобра. Ведаеш, з каго смяяцца найцікавей?

— З каго?

— З сябе! Паглядзі на сябе нібы збоку, убачыш у сабе шмат смешнага.

На другі дзень ні з таго ні з сяго мне захацелася пасмяяцца. Але я не пайшоў на вуліцу, а зрабіў так, як параіў мне тата. Пачаў глядзець на сябе нібы збоку. Глядзеў, глядзеў, але нічога смешнага не ўбачыў. Я нават зазірнуў у люстра, але ўсё роўна не засмяяўся. І раптам я ўспомніў, як мінулым летам сядзеў і збіваў суседскія яблыкі, якія звешваліся ў наш сад. А для выгляду я пасцяліў посцілку, нібы лёг пазагараць.

„Добра, — думаў я. — Сяджу сабе ў кустах. Усе думаюць, што я загараю. А я зараз налаташу поўную кашулю яблыкаў і ўцяку“. Так я сядзеў, збіваў і думаў, як я набраў суседзяў. І раптам убачыў з другога боку плота хлапца. Ён ірваў нашыя маліны. Хлапец падміргнуў мне і кажа:



— Не варта рваць! Яны яшчэ зялёныя. А вось маліна ў сам раз паспела!

Сказаў і перакуліў у рот цэлую жменю. У мяне нават слінкі пацяклі. Я ўспомніў свой жалосны выгляд, у кашулі, поўнай кіслых, зялёных яблыкаў, і мне страшна зрабілася смешна. Потым я ўспомніў, як выкідаў яблыкі і як хлапец рагатаў. І як, складаючы посцілку, я пачуў над сабой голас суседкі:

— Хто ж гэта загарае ў кашулі?

Чым больш я ўспамінаў, тым больш рагатаў. Я так рагатаў, што прыбеглі суседзі.

— Хто цябе насмяшыў? — спыталі яны. — З каго ты так смяешся?

— З сябе! — ледзь выдушыў я і зарагатаў яшчэ галасней.

---

**М. Сладкоў**




Карлуха — варанятка. Жыве ён у двары. Тут ён робіць усё, што хоча. А больш за ўсё ён хоча— хаваць.

Хавае ўсё, што толькі ў дзюбу трапіцца. Скарынку знойдзе — скарынку схавае, скурку ад каўбасы — скурку, каменьчык — каменьчык. Хавае ён так. Тупае і па баках аглядаецца, а як угледзіць добрае месцайка — тык у яго носам! Пакладзе і зверху травой прыкрые. Агледзіцца — ніхто не бачыў? — і зноў патупае. Яшчэ нешта схавацъ.

Аднойчы ён гузік хаваў. Усадзіў яго ў самую густую траву. Рамонкі там раслі, званочкі, каласкі розныя і мяцёлкі. Пачаў гузік травою прыкрываць. Прыгнуў каласок, а той выпраставаўся. Мяцёлачку прыгнуў — і мяцёлачка выпраставалася. Рамонак нахіліў — і рамонак узняўся. Званочак нахіліў — і званочак устаў! Стараўся-стараўся, хаваў-хаваў, а гузік наверсе ляжыць. Вось ён. Ва ўсіх на вачах. Кожная сарока ўкрасці можа.

Разгубіўся Карлуха. Нават крыкнуў ад здзіўлення. Узяў свой гузік і на новае месца пакрочыў хаваць.

Усадзіў у траву, каласок прыгнуў — а той выпраставаўся. Званочак нагнуў — а той узняўся!

А сарокі ўжо блізка ў кустах трайкочуць, зусім як запалкі ў карабку. Вось-вось гузік забяруць. Хутчэй запхаў Карлуха яго пад цэглу. Пабег, трэсачку прынёс, заткнуў дзірачку. Моху наскубаў — усе шчылінкі пазатыкаў. Каменьчыкам збоку прываліў. А для пэўнасці яшчэ і сам зверху на цэглу сеў.

Але нахабныя сарокі ўсё роўна трайкочуць! Напэўна, ужо нешта плануюць.

Злуецца Карлуха. Рамонак сарваў, лапай прыцісну, дзюбай пялёсткі абшчыпвае — так і ляцяць ва ўсе бакі. А мне здаецца, што ён па рамонку варожыць: украдуць — не ўкрадуць, украдуць — не ўкрадуць?

І ўсё-такі гузік у Карлухі сарокі ўкралі.

Я. Логінаў

# ДВА КАТЫ У БОТАХ

Новы год, вядома, добрае свята. Тут табе і ёлка, і падарункі, і канікулы. Я нават не ведаю, што самае галоўнае. Мішка казаў, што падарункі, таму што яму вельмі хацелася мець сапраўдную хакейную клюшку. А я думаю, што канікулы, бо клюшка ў мяне ўжо ёсць.

Увогуле, аб гэтым дарэмна спрачацца. А аб школьнай ёлцы і ўспамінаць неахвота. Тады такая выйшла штуковіна!.. Уся вёска смяялася. І ўсё з-за Мішкі.

Пачалося ж з таго, што ў школе павесілі прыгожую афішу: „Усе на маскарад! Лепшыя касцюмы будуць прэміраваны!“ Між іншым сярод прызоў была і хакейная клюшка, якую Мішка вырашыў зарабіць няглeдзячы ні на што... Ён з'явіўся да мяне ўвечары і сказаў голасам начальніка:

— Папера ёсць?

— Ёсць, — адказаў я.

— Сядай і запісвай... Значыць так. Дзве падушкі... Дзве... Татавы рыбацкія штаны. Запісаў?

Я сказаў, што запісаў, хаця нічога і не разумеў. А Мішка працягваў дыктаваць, як настаўнік на кантрольнай:

— Капялюш — адзін. Адзін... Пеўня я бяру на сябе.

— Як-кога пеўня? — спытаў я.

— Цёціфенінага. Пазычым. Далей... Боты балотныя — адна пара. Возьмем у брата, ён не будзе сварыцца. Шпагу зробім з лыжнай палкі. Пакуль усё.

— Што „ўсё? — спытаў я і паказаў на спісак.

Мішка пастукаў пальцамі па стале (зусім як настаўнік) і растлумачыў, што гэта рэквізіт, з дапамогай якога мы разыграем на ёлцы народную казку пра ката ў ботах, які за трыдзевяцьзямель выкрадае пеўня, якога выратоўвае гарцэрка Чырвоная шапачка, іграць якую буду я. Сам Мішка вырашыў іграць ката.

Я сказаў, што ў казцы ўсё паіншаму. Але Мішку гэта не збянтэжыла. Ён адказаў, што затое ў нас будзе каронны нумар — жывы певень. Цёціфенін.

Да школьнага маскараду заставалася чатыры дні. Рэпетыцыі ішлі поўным ходам. Кот у ботах хапаў пусты кошык (пеўня мы ў п'есу пакуль не ўводзілі) і бег у трыдзевятае царства. Чырвоная шапачка даганяла яго і пратыкала шпагай. І ратавала разняшчаснага пеўня. Потым мы раскланьваліся. Увогуле, справы ішлі нядрэнна. На рэпетыцыях Мішка ўжо не губляў балотныя боты, а я амаль не блытаўся ў спадніцы, якую выпрасіў для выступлення ў сваёй старэйшай сястры.

Нарэшце наступіў дзень маскараду. Мішка ўскочыў у балотныя боты і прыклеіў вусы, якія выразаў са старога кажушка. Потым прывязаў спераду дзве падушкі і нацягнуў зверху паляўнічую куртку. У капялюш ён уставіў пяро. Яго прышлося пазычыць у цёціфенінага пеўня. Певень ужо сядзеў у кошыку і паводзіў сябе смірна. Я таксама прыбраўся і прывязаў да пояса лыжную палку — шпагу. Мішка ўзяў у рукі кошык, і мы падыйшлі да люстэрка.

Атрымалася вельмі смешна: кот у ботах з кошыкам, а Чырвоная шапачка наадварот — са шпагай. Мы вырашылі трошкі спазніцца. Мішка сказаў, што так будзе больш эфектна. Калі мы прыйшлі ў школу, у калідоры было ўжо пуста. З залы чулася музыка. Мішка пачакаў, пакуль баяніст скончыў іграць і падштурхнуў мяне локцем. Я ўвайшоў у залу і закрычаў, як было адрэпеціравана:

— Дарагія сябры! Увага! Звыш праграмы ў выкананні артыстаў пятага класа „Б" вы ўбачыце народную казку пра ката ў чырвонай шапачцы і пеўня ў ботах, якога за трыдзевяць зямель...

Тут мяне прыпыніла Надзька, выдатніца з пятага „А". Яна паглядзела ў блакноцік і спакойна аб'явіла:



— Танец чатырох лебедзяў. Выконваюць вучаніцы пятага класа „А".

Баяніст адразу зайграў. Усе павярнуліся да дзвярэй і пачалі чакаць лебедзяў. Я таксама павярнуўся і ахнуў: на парозе стаяў цёціфенін певень! Стаяў злосны і распраўляў ваяўніча крылы. А ззаду да яго падкрадваўся кот у балотных ботах. Баяніст жа іграў сабе танец і нічога не бачыў.

Кот працягнуў руку да пеўня, але таго спудзілі лебедзі з пятага „А". Я закрычаў, каб яны пачакалі, але было позна. Певень распусціў крылы і вылецеў на сярэдзіну залы. Усе зарагаталі. І нават запляскалі ў далоні. Мішка кінуў кошык і пачаў лавіць пеўня, які бегаў вакол ёлкі, а ў дзвярах сталі лебедзі і ціха смяяліся. А ў зале смяяліся гучна. Баяніст перастаў іграць. Трэба было ратаваць становішча. Я выхапіў шпагу і закрычаў:

— Спыніся, разбойнік! Інакш я праткну цябе палкай, гэтай... лыжнай шпагай!

Я, вядома, як на злосць, памыліўся. Стала яшчэ весялей.

— Ну і пратыкай! — сярдзіта зашыпеў на мяне Мішка. — Толькі я тут ні пры чым. Ён сам выскачыў.

Я ўзмахнуў шпагай і праткнуў ката. Мішка стаяў увесь чырвоны. З яго сыпаўся белы пух. Напэўна, падушка парвалася.

Цёця Феня панесла пеўня ў хлеў. Яна вярнулася з венікам і шуфлікам. Потым танцавалі лебедзі з пятага „А".

Цяпер нас у школе ўсе завуць „Два каты ў ботах"!




© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# ПАГЛЫБЛЯЙ  СВАЕ ВЕДЫ 

## КОЛЬКІ ГОД ЖЫВЕ НАСЕННЕ?

У свой час увесь свет абабегла сенсацыйная вестка: насенне, знойдзенае ў егіпецкіх грабніцах, было пасеяна і ўзышло. Вучоныя не хацелі верыць. Пачаліся дакладныя доследы. Яшчэ ў мінулым стагоддзі мічыганскі батанік Біл закапаў на глыбіню метра бутэлькі з сухім пяском, у якім знаходзілася 23 гатункі зярнятаў. Праз кожныя пяць год бутэлькі вымалі з зямлі, і насенне правяралася на ўзыход. Аказалася, што 10 гатункаў зярнятаў не перажылі і пяці год. Але большасць іншых захавала свае жыватворчыя сілы на працягу чвэрці стагоддзя.

Два амерыканскія вучоныя пайшлі далей: у 1949 годзе яны пачалі доследы з насеннем, разлічаныя на 300 год. 2249 год прынясе цікавыя вынікі гэтых доследаў.

Але ёсць і насенне — доўгажывучае, якое трапіла ў незвычайныя ўмовы. Так, напрыклад, у 1926 годзе ў тарфяным пласце высахшага манжурскага возера было знойдзена насенне індыйскага лотаса. Радыёспектральным спосабам было ўстаноўлена, што яго ўзрост — ...1000 год. І гэтае насенне прарасло.

А ў 1954 годзе канадзец Гарольд Шмідт знайшоў у раёне Юкона ў глыбокіх (3-6 м) норках грызуноў насенне арктычнага лубіну, якое ва ўмовах вечнай мерзлаты пралякала 10.000 год. Калі пасеялі 24 зернетка гэтай расліны, дык 6 з іх узышло, а адно каліва нават расцвіло.

## ТРАНСПЛАНТАЦЫЯ

Прайшло зусім нямнога часу з таго моманту, калі ўпершыню сэрца здаровага чалавека было перасаджана хвораму. Цяпер на свеце працуе больш 60 груп хірургаў па перасадцы (трансплантацыі) сэрца. Усяго яны правялі 270 аперацый з добрым вынікам. З чужым сэрцам цяпер жыве каля 50 чалавек, з іх 14 — больш трох год. Аб гэтым гаварылася на міжнародным кангрэсе хірургаў у Амстэрдаме.

Па трансплантацыі нырак працуе 300 калектываў хірургаў. З 19.000 чалавек, якія былі імі апераваны, цяпер жыве 9.000 чалавек. Ёсць свайго роду „чэмпіён", які жыве з чужымі ныркамі ўжо 19 год.

## КАПУСТА НА ВЯРОЎКАХ

Водарасць ламінарыю называюць яшчэ і марской капустай. Яна прыдатна да яды і вельмі карысная. Выкарыстоўваюць яе ў медыцыне, парфюмерыі, тэкстыльнай прамысловасці і інш. І вось нядаўна ў Белым моры, недалёка ад Салавецкіх астравоў, паявіліся плантацыі марской капусты. Вырошчваюць яе незвычайна — на вяровачных градках. Вяроўкі змазваюць ламінарыяй і прымацоўваюць да дна. Водарасць разрастаецца, дае новыя расліны даўжынёй на некалькі дзесяткаў метраў. Рэгулярна потым вяроўкі выцягваюць і збіраюць ураджай.

**Рыхтуемся да навагодняга вечара**

# Уласнаручныя дэкарацыі




Просты ліст паперы на першы погляд прадстаўляе сабою гнуткую, падатную паверхню. Але варта яго толькі скруціць у цыліндр або скласці адпаведным спосабам, як нечакана гэты ліст робіцца і цвёрдым і гарманійным, цікавай формы.

Вось люстра № 1 цікавая тым, што дэталі выкрайкі перагінаюцца не на простай лініі, як прызвычаіліся, а па дугавіднай, з адначасовым сцягваннем вяршынь выкрайкі да цэнтра. Для выкрайкі трэба ўзяць ліст ватману (брыстолю), падзяліць яго на тры роўныя часткі, да яго прыклеіць ліст, роўны дзвюм часткам, нанесці цыркулем лініі перагібу і па кружочках у свабодным полі выкрайкі зрабіць надрэзы. Затым склейваем паперу ў цыліндр і пачынаем згінаць вяршыні да цэнтра. Змацоўвае іх трубка ў цэнтры з раўнамерна прарэзанымі квадратнымі дзірачкамі.

Люстра № 2 — гэта таксама ліст паперы, сцягнуты ў вогнута-выпуклы цыліндр. А зробленыя разрэзы на паперы дазваляюць атрымаць яшчэ дадатковы эфект чаргаваннем вузкіх і шырокіх плоскасцяў.

Люстра № 3. Уся складанасць яе ў вельмі дакладным рысунку ліній і надрэзаў.

Асаблівасць люстры № 4 заключаецца ў наступным: паперу разрэзваем па малюнку і склейваем яе ў цыліндр. Дзякуючы конуснасці выразаў, яны сябе заклінываюць і ўтвараюцца светлавыя эфекты вельмі арыгінальнай формы.

Люстра № 5 вельмі простая. У пялёсткі „кветкі“ ўстаўляюцца канцы ўгольнікаў і, каб люстра набыла больш выразную форму,

**(Працяг на стар. 8)**

(Працяг са стар. 7)

мяккім дротам або ніткамі сцягваюць канцы.

Каб люстру лёгка можна было накладаць на лямпачку, верхняя дзірачка павінна быць зроблена большай, чым лямпачка. А толькі надзеўшы на лямпачку, люстра замацоўваецца цясней і прыклейваецца.

Выкарыстоўваючы прапанаваныя праекты, спрабуйце сканструяваць уласныя ўпрыгожанні на навагодні вечар.




* ❊ *

Оля Антыпюк, Кленікі 16, пошта 17-208 Кленікі, Беластоцкае ваяводства.

* ❊ *

Валя Карнілюк, Кленікі, пошта 17-208 Кленікі, Беластоцкае ваяводства.

* ❊ *

Гэлена Міхальчук і Марыя Васілюк, вучаніцы сёмага класа, Ніна Нікалаюк, Яўгенія Андрэюк, Яўгенія Васілюк — вучаніцы шостага класа, вёска Цялушкі, пошта Рыбалы, Беластоцкае ваяводства.




## ХІТРЫКІ З КРЭСЛАМІ

1. Як расставіць 16 крэслаў каля чатырох сцен пакоя, каб каля кожнай сцяны стаяла па 5 крэслаў?

2. Як расставіць 6 крэслаў каля чатырох сцен пакоя, каб каля кожнай сцяны стаяла па два крэслы?

3. Як расставіць 10 крэслаў каля чатырох сцен пакоя, каб каля кожнай сцяны стаяла па 3 крэслы?

# АДГАДАНКА





Знайдзі на гэтых малюнках пятнаццаць адрозненняў.

Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Zorka".